# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 14 (997) ГОД XX 6 КРАСАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


ДА ПЛЕНУМА ГП БГКТ

## ЗА ЎМАЦАВАННЕ І ПАШЫРЭННЕ ГУРТКОЎ

У сувязі з тым, што **13 красавіка** бягучага года адбудзецца **пленарнае пасяджэнне** Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, мы звярнуліся да старшыні ГП БГКТ **Мікалая Самоціка** з пытаннем, што будзе галоўнай тэмай гэтага пасяджэння.

— Красавіцкі пленум ГП БГКТ хочам прысвяціць тэме **„Праца Галоўнага праўлення і аддзелаў БГКТ у пашырэнні і ўмацаванні гурткоў нашага таварыства“**. Такая тэма вынікае з жыццёвых патрэб нашай арганізацыі.

Вядома, што дзе добра працуе гурток БГКТ, там развіваецца ўсебаковая культурна-асветная дзейнасць: працуюць самадзейныя драматычныя і вакальна - музычныя калектывы, адбываюцца сустрэчы з нашымі літаратарамі, разгортваюцца і іншыя формы працы. У такіх мясцовасцях мае размах грамадская праца, спраўна праходзяць фэстыны БГКТ, людзі прымаюць удзел у розных конкурсах, якія штогод праводзіць наша таварыства. Там таксама ўмацоўваецца і пашыраецца блізкае штодзённае супрацоўніцтва гурткоў БГКТ з маладзёжнымі і грамадскімі арганізацыямі: Саюзам сацыялістычнай вясковай моладзі, гурткамі вясковых гаспадынь, гміннымі спулдзельнямі сялянскай самапомачы, ЛЗС-ам і іншымі. Такім гурткам БГКТ з дзейснай дапамогай прыходзяць павятовыя дамы культуры, аддзелы культуры, парадні па справах культуры, гмінныя ўпраўленні, ГС-ы, сельгасгурткі.

Іменна таму на пленарным пасяджэнні хочам усебакова абмеркаваць спосабы дапамогі гурткам БГКТ, асабліва тым, што працуюць слаба. Намерваемся сканцэнтраваць нашу ўвагу на тых формах і метадах нашай працы з гурткамі, якія прыносяць найбольш плённыя вынікі. Выкарыстоўваючы наш вопыт працы, трэба знайсці самыя эфектыўныя сродкі, каб умацаваць, пашырыць і заахвоціць да актыўнай дзейнасці слабыя гурткі. Важна таксама і тое, каб наш актыў меў грунтоўныя веды і добрую арыентацыю ў формах працы нашага таварыства, затым перадаў іх нашым дзеячам у паветах і гуртках, мабілізаваў гурткі да дзеяння.

Наш актыў павінен выкарыстаць усе спецыфічныя асаблівасці кожнага асяроддзя і адпаведна да іх знайсці найбольш прыцягваючыя формы дзейнасці існуючых ужо гурткоў БГКТ. Пры гэтым трэба звярнуць асаблівую ўвагу на павелічэнне ліку членаў нашай арганізацыі ў розных асяроддзях: у вёсках, мястэчках і гарадах.

Звяртаемся да ўсіх удзельнікаў красавіцкага пленума, каб яны сабралі як мага больш багаты матэрыял з вопыту працы гурткоў і аддзелаў, зрабілі адпаведныя вывады са сваіх назіранняў і ўжо на пленуме выказалі свае думкі. Гэта дасць магчымасць пленарнаму пасяджэнню апрацаваць найбольш правільныя і эфектыўныя метады і формы далейшай дзейнасці нашага таварыства.

**Натаваў Мікалай Гайдук**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“





*Галоўны паляўнічы запаведніка Уладзімір Ільясевіч знайшоў ласіныя рогі. („Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік“, стар. 2).*

НА ШЛЯХУ ДА ПЕРАМОГІ

## СУСТРЭЧА З ГЕРОЕМ САВЕЦКАГА САЮЗА

Сакратар партыйнай арганізацыі маскоўскіх пісьменнікаў тав. Уладзімір Разумневіч пазнаёміў мяне з героем Савецкага Саюза **Іванам Арсенцьевічам Чарняцом.** Герой аказаўся зусім звычайным, вельмі ветлівым, дружалюбным, вясёлым чалавекам. Ён пісьменнік. Чытачы яго ведаюць пад псеўданімам **Іван Арсенцьеў.** Яму цяпер 55 год. З жонкай і дачкой жыве ў трохпакаёвай кватэры ў адным з аддаленых ад цэнтра кварталах Масквы.

Запрасіў ён мяне ў свой пісьменніцкі кабінет, у якім найбольш месца — як можна было спадзявацца, — займаюць кніжныя шкафы і розныя трафеі са шматлікіх яго падарожжаў.

— Вось гэта, — паказвае штосьці накшталт мармуру або перламутра, — кусок сапраўднага мамантавага рабра, які я асабіста адпіліў у час пабыўкі на Камчатцы.

На супрацьлеглай сцяне гэтага кабінета ганаровае месца займае шлём ад высотнага камбінезона, які апранаюць цяпер лётчыкі, калі садзяцца на супернавейшыя рэактыўныя самалёты.

— Яго мне падарылі лётчыкі адной з часцей паветранага флоту, — паясняе Іван Арсенцьевіч. — Ён мне напамінае аб маёй маладосці, калі я таксама на ястрабках і штурмавіках прабіваўся праз суровае паветра ў Айчынную вайну.

Менавіта за баявыя дзеянні, за адвагу і ўмеласць, праяўленыя ў час смяротных змаганняў з нямецкімі захопнікамі Іван Чарнец удастоен самай высокай узнагароды: яго грудзі — сярод шматлікіх ордэнаў і медаляў — упрыгожвае **Залатая Зорка Героя Савецкага Саюза.**

Прашу яго, каб расказаў, як гэта здарылася, а ён уручае мне кніжку і гаворыць:

— Вось вам адказ. Героямі гэтай кніжкі з'яўляюцца мае баявыя сябры і я. Усе мы тут выступаем пад зменёнымі прозвішчамі, бо літаратура мае свае па-

Працяг на стар. 4

## СВЯТА У ПАЎЛАХ

Гэты суботні вечар 15 сакавіка выдаўся не па-веснавому пахмурны і халодны, але ў чысценькай і ўтульнай, хоць і невялічкай, зале святліцы ў **Паўлах,** што ў Беластоцкім павеце, панаваў асабліва цёплы, сардэчны настрой. Моладзі і дарослых сабралася амаль з усяе Рыбалаўскай гміны столькі, што і пальцам не было дзе ткнуць, і кожны з зацікаўленнем успрыймаў **дзвесце васемнаццатае выступленне** на сцэне тутэйшага самадзейнага тэатральнага калектыву, які ў гэты вечар адзначаў сваю няспынную **дваццацігадовую** дзейнасць.

На юбілейную пастаноўку прыбылі: I сакратар Павятовага камітэта ПАРП **Ян Дзенісюк,** начальнік Павятовага ўпраўлення **Базыль Гулько,** старшыня Галоўнага праўлення БГКТ **Мікалай Самоцік,** прадстаўнікі аддзела асветы і культуры павятовага ўпраўлення і іншых установаў. З Варшавы прыехала пісьменніца **Марыя Шулецкая,** аўтар аповесці „Стаптаная зямля“, пра вёску Райск і яе ваколіцы.

— Быў, як і сёння, сакавік 1955 года, — прыгадвае ў сваім выступленні кіраўнік паўлаўскага тэатральнага калектыву, дырэктар мясцовай пачатковай школы **Валянціна Мароз.** — Вёска спачывала пад белай пярынай снегу. Чым было заняцца людзям, асабліва вясковай моладзі? Адзіным цэнтрам, які ў тыя часы пашыраў асвету ў сяле, была школа. І іменна яна мабілізавала моладзь да дзеяння. Ініцыятарам пачынання быў прысутны

Працяг на стар. 4



*Самадзейны калектыў у Паўлах славіцца не толькі ўдалымі пастаноўкамі тэатральных п'ес, але і добрым хорам.*

 

## БГКТ хроніка

■ Гурток БГКТ у Піражках (Сакольскі павет) складаецца ў асноўным з моладзі. Члены яго з'яўляюцца таксама членамі ЗСМВ. Вось таму супольны тут старшыня (Расціслаў Алекша), супольны план працы, супольная дзейнасць. Нядаўна на сваім сходзе члены гэтых дзвюх арганізацый пастанавілі падрыхтаваць беларускую п'есу і 5-га мая выступіць на мясцовай сцэне. Пасля выступлення драмгуртка адбудзецца маладзёжная танцавальная вечарына.

■ Аплочванне складчын — гэта адзін са статутовых абавязкаў БГКТ. На Гайнаўшчыне ўжо многія аплацілі складчыны за 1975 год. У апошні час у 100% аплацілі членскія складчыны сябры з Масева, Крыўца, Лукі, Скупава і Тарнопаля. Аб гэтым паінфармаваў нас штатны працаўнік гайнаўскага аддзела Віктар Бура.

■ 20 сакавіка ў сакольскім аддзеле БГКТ з удзелам прадстаўнікоў гурткоў БГКТ са Слоі, Піражкоў, Крынак і Сухініч была абмеркавана іх дзейнасць і напрамкі працы ў гэтым годзе. Шмат увагі было прысвечана наладжванню мерапрыемстваў у сувязі з Днямі савецкай культуры, якія будуць праводзіцца ў Польшчы да канца красавіка. Галоўная ўвага будзе звернута там на культуру Беларускай ССР.

■ 23 сакавіка ў Бельску адбыўся фінальны агляд драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам, арганізаваны Беларускім таварыствам. Гэтаму агляду будуць прысвечаны матэрыялы ў наступным нумары „Нівы".

■ 24 сакавіка ў ГП БГКТ на чарговай штомесячнай нарадзе штатных працаўнікоў БГКТ галоўная ўвага была звернута на пошукі аддзеламі новых, лепшых, больш дасканалых метадаў працы з гурткамі БГКТ. (мх)

## Што новага?



## „Дэмакратыя" па-сеульску

У гэтым годзе ён павінен быў пакінуць прэзідэнцкае крэсла без права перавыбрання зноў. Так прадугледжвала канстытуцыя Паўднёвай Карэі, якая дзейнічала больш чым два гады назад. Але ж нездарма гавораць, што апетыт прыходзіць у час яды. А ў сеульскага дыктатара Пак Чжон Хі апетыт да ўлады прачнуўся незвычайна рана і чым далей, тым станавіўся ўсё больш ненасытным...

Восенню 1972 года ў краіне ўводзіцца „ваеннае становішча" і аб'яўляецца аб пачатку правядзення „рэформ нацыянальнага адраджэння". Да нацыі, вядома, уся гэта аперацыя не мела ніякіх адносін, але затое дала магчымасць Паку навязаць новую „канстытуцыю", якая прадстаўляла яму абмежаваныя паўнамоцтвы, уключаючы права назначаць адну трэць членаў парламента і распускаць яго па свайму ўласнаму жаданню.

Словам, юрыдычная „база" пад новыя дамаганні на пасаду прэзідэнта была падведзена. Здавалася, бязвоблачнае будучае гарантавана. Але ў канцы 1973 года пачаліся масавыя антыўрадавыя выступленні моладзі, выкладчыкаў, журналістаў, многіх рэлігійных дзеячаў, якія патрабавалі адмены „канстытуцыі" 1972 года. У краіне разгарнулася кампанія пад петыцыяй пратэсту супраць увекавечання дыктатуры Пака.

Рэакцыя ўлад была знаёмай. З'явілася серыя „надзвычайных", сапраўды драконаўскіх законаў, якія аб'яўляюць злачынствам любую крытыку „канстытуцыі". Тысячы рабочых і сялян, студэнтаў, пісьменнікаў, свяшчэннікаў былі кінуты за краты, многія з іх прыгавораны да пакарання смерцю або пажыццёвага турэмнага зняволення.

Жорстка расправіўшыся з патрыётамі, сеульскі „прэзідэнт" задумаўся і аб сваім лёсе. Відавочна, памятаючы, што ў наш бурны век чым чорт не жартуе, ён, па-першае, загадаў максімальна ўзмоцніць праціпаветраную абарону Сеула, каб ні адзін лятаючы прадмет не мог бесперашкодна паявіцца над яго палацам. І вось першыя „вынікі": у мінулым годзе зенітныя гарматы чатыры разы адкрылі агонь па „неапазнанаму прадмету".

Прадметы спакойна прылятаы і адляталі, а на вуліцах толькі ў выніку „звышметкай" стралянiны за адзін дзень 16 снежня асколкамі быў забіты адзін і паранена 27 чалавек.

Па-другое, рэзідэнцыя Пака-Чонвандэ ператвараецца ў самы сапраўдны ўмацаваны раён з мноствам агнявых пазіцый і загарод. Паводле слоў японскага часопіса „Секай", жыхары блізка размешчаных дамоў дзеля бяспекі Пака прымусова выселены і цяпер вымушаны жыць у сеульскіх трушчобах.

І, вядома, як і раней, Пак робіць галоўную стаўку на ваенныя замежныя базы на тэрыторыі Паўднёвай Карэі.

Паводле даных амерыканскага друку, Пентагон трымае тут 38 тысяч салдат, якія размешчаны на 140 базах і аб'ектах. Як пісала газета „Нью-Йорк таймс", ЗША маюць у Паўднёвай Карэі тактыч-

(Працяг на стар. 5)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік

Навальніца патрасае лясны гушчар, падаюць старыя дрэвы і назаўсёды застаюцца на імховай падсцілцы. Ніхто іх не чапае, хіба толькі час. Чалавек не ўмешваецца ў лясныя справы, не парушае спакою звярынага царства. Чалавек пільна ахоўвае лясное багацце.

Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік быў арганізаваны Савецкім урадам у студзені 1925 года. Ён займае плошчу каля 800 квадратных кіламетраў. Перад адміністрацыяй запаведніка былі пастаўлены заданні: берагчы суцэльнасць прыроднага комплексу, памнажаць колькасць каштоўных звяроў і птушак, усебакова вывучаць прыродныя працэсы, якія праходзяць у натуральных умовах. Тут паспяхова вядуцца навуковыя даследаванні. Іменна ў Бярэзінскім запаведніку ўпершыню ў краіне была арганізавана бабровая ферма. Бабры — працалюбівыя меліяратары, якія беспярастанку ствараюць новыя плаціны, новыя ставы, а значыць, і новыя ўзбярэжжы, парастаючыя раслiннасцю.

Навуковая праца вядзецца таксама і ў галіне вывучэння рэдкіх і каштоўных аб'ектаў паляўнічай фауны, што можа быць выкарыстана ў якасці расплоднага матэрыялу пры арганізацыі футравых і іншых зверагадоўчых гаспадарак. Паралельна вядзецца доўгагадовая перайімальная навуковая праца, звязаная з заданнямі па ахове прыроды, з вывучэннем характару і дынамікі прыродных працэсаў, якія адбываюцца па-за сферай гаспадарчай дзейнасці чалавека.

Такое вывучэнне некранутых чалавекам прыродных комплексаў неабходна для таго, каб шляхам супастаўлення вынікаў развіцця прыродных працэсаў у запаведніку знаходзіць правільныя і найбольш эканамічныя шляхі, каб пазбегчы новых або направіць ужо дапушчаныя памылкі пры выкарыстоўванні прыроднага багацця.

Адсюль вынікае і другое, не менш важнае заданне запаведніка: служыць базай для папулярызавання ідэй аховы прыроды і навуковага знаёмства з ёю, перш за ўсё, шляхам пазнавальнага турызму.

Па маляўнічай тэрыторыі запаведніка працякае рака Беразіна. Цячэ яна па дзікай пушчы праз балоты. На яе крутых і пaлогіх берагах — мноства палаткавых гарадкоў, раскінутых па турысцкіх шляхах запаведніка. Усё гэта гаворыць аб вялікай зацікаўленасці людзей да гэтага маляўнічага куточка прыроды. Па асобных адрэзках Беразіны турысты падарожнічаюць на кацеры, адпачываюць ля кастроў, сустракаюць узыход сонца на берагах возера Палік.

...У густых зараслях запаведніка ласі знаходзяць асіну і іву, дзікі рыюцца ў карэннях, шмыгаюць па вяршынях дрэў куніцы і ваверкі. Сюды прыходзяць алені, у зараслях малінніку можна сустрэць мядзведзя. На азёрах і ставах запаведніка водзяцца качкі, кулікі, шэрыя чаплі, чорныя буслы і іншыя птушкі.

Бярэзінскі запаведнік — растучая гаспадарка. Перспектыўным планам прадбачваецца будаўніцтва лабараторнага корпуса, музея прыроды, гасцініцы, культурна-бытавых і іншых будынкаў. Усё гэта дазволіць пашырыць навуковыя даследаванні, будзе спрыяць паляпшэнню студэнцкай практыкі і развіццю турызму.

Тэкст і фота **В. Казлова**



*Старшы егер Уладзімір Варанцоў на ўчастку.*



## Telewizja Warszawa

**Niedziela 6.IV.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Ostatni rok — film dok. radz. cz. I (Drogi Zwycięstwa). 12.30 Dzien. 12.50 Horyzonty. 13.15 Słynne sym. Mozarta. 13.50 Nie tylko dla pań. 14.20 Dla dzieci. 15.00 Lek. Pegaza. 15.15 Los. Toto-Lot. 18.30 Z kamerą wśród zwierz. 16.00 Ref. ob. 16.15 Polska — Belgia film. dok. 16.35 Sport. 18.20 Postaw się, nie zastaw się. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dorosłych. 20.25 Jerzy — film ser. ang. (Bel Ami) odc. I. 21.10 Pr. muz. rozr. 22.00 Sport.

**Poniedziałek 7.IV** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 NURT — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. pers. 18.10 Stroikowe harce. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dob. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV. 21.45 Pegaz. 22.30 Dzien. 22.45 Złota Tarka 75. 23.10 Oferty.

**Wtorek 8.IV.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 10.00 Bel Ami — film ser. ang. odc. I pt. Jerzy. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Wych. plast. Uroda przedmiotu. 12.00 (kl. VIII) Hist. Rok zwycięstwa. 12.30 Adam Sangala — film ser. TV CSRS odc. II. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Up. rośl. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Dzien. 15.45 Dla dzieci. 16.15 Hokej CSRS — ZSRR. 18.35 Kr. Warsz. i Maz. 18.55 Sezam. 19.20 Dob. 19.30 Dzien. 20.20 Adam Sangala — film ser. TV CSRS odc. II. 21.15 Świat i Polska. 22.00 Recital pios. Miniki Herz. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Środa 9.IV.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Up. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. W świecie niewidzial. 10.15 Inżynier Pronczatow — film ser. radz. odc. I. 11.05 Dla szkół: (kl: VII) Hist. W. Kętrzyński. 12.00 (kl. VIII) Chem. Szkło. 12.45 Tech. Rol. J. Pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.50 NURT — Naucz. pocz. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dzien. 16.35 Dla mł. widzów. 17.05 Inf., Tow., Prop. 17.15 Inżynier Pronczatow — film ser. radz. odc. I. 18.05 Los. Mał. Lot. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Spotkania z medycyną. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Hokej. Polska — USA. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Czwartek 10.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.00 Kurs Informat. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. A. Asnyk. 10.35 Pętla — film. TVP (S.O.S). 12.35 Dla szkół: (kl. III-IV) J. pol. Wł. Broniewski. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Ochr. rośl. 15.05 Mat. w szk. Ułamki III. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla mł. widzów. 17.40 Nauka Polska w XXX-leciu. 18.00 Opera Buffo contra Seria. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Przyp., radz. 18.55 Poligon. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Pętla — film TVP (S.O.S.). 21.10 Hokej. Szwecja — ZSRR. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Piątek 11.IV** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Ochr. rośl. 8.05 Wielcy detektywi — film ser. fr. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Wielkie miasta ameryk. 10.00 (kl. VI) Geogr. W krainie jezior i wzgórz. 11.05 (kl. II) Z księżycem za pan brat. 12.00 (kl. VIII) Wych. Ob. Polska w Europie. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.50 NURT Nauki polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.15 Prawda w oczy. 17.40 Dla mł. Krąg. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Wielcy detektywi — film ser. fr. 21.15 Panorama. 21.55 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 22.25 Dzien. 22.40 Sport.

**Sobota 12.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człow. Słuch. 10.00 Za obłokami niebo — film fab. radz. 13.35 Tech. Rol. Mat. 14.05 Hod. zwierz. 14.40 Pr. dnia. 14.45 Pr. I prop. 15.00 Kr. Warsz. i Maz. 15.20 Red. Szk. zap. 15.30 Inf. Wyd. 15.50 Dzien. 16.00 Dla dzieci. 16.25 Publ. międzynar. 16.55 Studio Muz. TV Mł. 17.40 Brazylia nieznana — film dok. 18.05 Wszystko za wszystko. 19.10 Dobr. 19.30 Monitor 20.20 Obywatel John Boe — film fab. USA. 22.20 Dzien. 22.40 Sport. 22.55 Pr. muz. rozr.

## Тэлевізія Мінск

**Piątek 4.IV** — 8.00 Film fab. 12.55 Film fab. 20.45 Koncert laureatów tańców balowych.

**Sobota 5.IV** — 12.40 Film fab. 14.30 W świecie zwierząt. 17.00 Hokej. Szwecja — Czechosł. 2 i 3 terc. 18.35 Film fab. 19.30 Spiewa G. Ots. 20.15 Hokej. Finld. — ZSRR.

**Niedziela 6.IV** — 9.00 Spektakl. 11.30 Film fab. 13.30 Koncert życzeń. 14.45 Klub film. 15.45 Hokej. Czechosł. — USA. 2 i 3 terc. 17.15 Balet. 17.50 Film fab. 19.30 Sport. Gimnastyka, hokej.

## Кіно

**Białowieża** Życie, miłość, śmierć — fr. 8—9. Szach królowej brylantów — radz. 10—11. Syn Godzilli — jap. 12—13.

**Czeremcha** Gangsterski walc — fr. 8—9. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 12—13.

**Czyże** Chłopi pol. 9—13.

**Dubicze Cerkiewne** Morgiana — czes. Przerwana pieśń — buł. 9—13.

**Gródek** Ucieczka King Konga — jap. 12—13.

**Kleszczele** Opowieść w czerwieni — pol. 8—9. Kto śpiewa nie grzeszy — jug. 10—11. Osobliwa miłość — wł. 12—13.

**Michałowo** Łobuz — fr. 8—9. Kes — ang. 10—11. Wspaniałe słowo wolność — radz. 12—13.

**Milejczyce** Trzej świadkowie — czes. 8—9. Gra złudzeń — wł. 10—11. Dramat namiętności — kanad. 12—13.

**Narew** Ciemna rzeka — pol. Stopień ryzyka — radz. 9—13.

**Narewka** On nie chciał zabijać — radz. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 9—13.

**Nurzec** Lampy naftowe — czes. 8—9. Dziewczyna inna niż wszystkie — ang. 10—11. Rajdowa sympatia — czes. 12—13.

**Rajsk** Czyste ręce — rum. Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii — angl. 9—13.

**Suchowola** Dowódca armii — radz. Ewa chce spać — pol. 9—13.

B.Z.Graf. zam. 1169 P-1



 

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 195

* ✲ *

*Не адрываю ад цябе вачэй*
*хаця і дуюць непрыязныя вятры*
*касцёр кахання нашага гарыць*
*і не скідаю я з плячэй*
*каромысла і два вядры*
*трымаю воселкі ў далонях*
*аблок кахання у адным*
*хмара трывогі у другім*
*і па адным гарачым промні*
*у шчасці п'ю аблока дым*
*а хмары змрок у час бяды*
*і промнем грудзі прабіваю*
*а ты усмешкаю сваёй*
*у сэрца мёртвае маё*
*жыццё па промню пасылаеш*

**Алесь Барскі**



## Эпізод у бюро на трэцім паверсе

Званіў тэлефон, і яго трубка апынулася ў лапе, якую смела можна назваць лапаю.

Губішчы сказалі:

— Пані памылілася. Так. Але. Калі ласка.

Трубка лягла і тэлефон здох. Лапа злезла.

Сказана да жывога:

— Пані Эля! Я ж казаў, як трэба...

— Разумею, пане кіраўнік, — ратавалася Эля.

Сказана:

— Ну!

Крокі выйшлі. Крокі на высокіх абцасах і, здавалася, голыя; зусім голыя. Яны зачынялі дзверы, калі шмыгануў пад пахі хабеляваты скразняк: хтосьці пакінуў насупроць адчынены туалет!

Хабель вышмыгнуў на галовы вуліцы разам з паперамі, што на падваконніку. Вуліца паглядзела мордамі і падняла сорак і чатыры рукі. Па нішто! Падалі фармуляры: ДАГАВОР АБ ЗНІШЧЭННІ БЛОХ У ПАХВІНЕ. ФАРМУЛЯР С-9-Р-8,5-А-183/89-К- і -П 5678 976.

Параграф першы: „Каб знішчыць блох у пахвіне, трэба мець пахвіну і блох".

Параграф другі: „Блохі размерам ад 1,1 міліметра да 1,5 міліметра знішчае служба Дэпартамента Сярэдніх Блох"...

Падалі фармуляры.

Хапалі іх і чыталі з пільнасцю дурных.

Губішчы смяяліся, выпусціўшы вочы за вакно.

— Гы-гы-гы, — смяяліся. — Людзі, быццам малпы: тое, што падае на іх — альбо ловяць, альбо ўцякаюць перад тым і хаваюцца, гы-гы-гы... Ну, і ці не дурні, людзі?

Хтосьці пастукаў у дзверы.

— Проша!

— Добры дзень, — сказала ўвайшоўшае. Хабеляваты скразняк, гэты хабелішча, ляснуў дзвярыма, як бы замыкаючы іх за дзяўчынаю, якая, пасля кароткай тузаніны без выйсця, перастане быць сабою і ляжа ў лапах, ціха і са скавытаннем. Уздырдыганіўшыся на стале, на пісьмовым стале, на гэтай пасцелі любоўніцы бюракрата.

...Губішчы ветліва растлумачылі нешта настолькі нецікавае нават ім, што аж не ведалі, аб чым гавораць. Гэта было падобнае да задуменнай хады, калі чалавек нават не ведае аб тым, што ён ідзе...

Увайшоўшае выйшла.

Губішчы зноў выпусцілі вочы за вакно.

**Сакрат Яновіч**

## А дождж бяжыць

Ён
бег усё
бег
крок за крокам
наперад
наперад
Ён бег
Дождж
ішоў ўсё
ішоў
кропля за кропляй
З гары
да нізу
Ён бег
Затрымаўся
— пахіліўся
І цяжка
грудзі
танцуюць усё
танцуюць
Раз угару
раз уніз
Дождж
ішоў
ўсё ішоў
кропля
за кропляй
Кланялася зямля
Пабеглі бягом
і хутка
і хутка
малыя ручаі.

**І. Баравік**



## ЦЯГНІКІ

Цягнікоў імклівых вельмі многа,
Што бягуць у розныя бакі.
Не вязуць нікога дарагога
Абыякавыя цягнікі.

Ды бываюць цягнікі другія,
Іх прыезд ёсць радасны такі.
Нам вязуць істоты дарагія
Блізкія надзвычай цягнікі.

Госць сардэчны зноўку на змярканні
Нам з купэ паслаў узмах рукі.
Астаўляюць горыч развітання
Разлучаючыя цягнікі.

**Віктар Швед**

## Асенняя дзяўчына

Збірала
пажаўцелае лісце
клёну
укладвала асцярожна
ў вялікі букет
адцвітаючага лета
у яе руках
ажылі яны
блескам тых дзён
...ізноў былі
разам
зноў бачыла
шчаслівыя яго вочы
толькі ім
свяціла сонца
іх вітала
зорнае неба
а сёння
што ж
сёння восень
скідае апошнія
лета краскі
сёння яна
ўжо далёка...
падняла вочы
з-над лісця
клёну
вочы тужліва
асеннія
развітвалася з летам.

**Ніна Матысюк**

## МАРЫ АБ РУЖЫ

*Зямля скалістая*
*маці ўбогая*
*жалобная чэрнь*
*зямнога цвету*

*I днём і ноччу*
*марыш аб ружы*
*аб неўміручай ружы*
*адным толькі зярняці*

*I днём і ноччу*
*над табою маці*
*плач траў нясецца*
*з бяздомным ветрам*

*I днём і ноччу*
*за існаванне*
*за жыватворны промень*
*снуецца траў маленне*

*Зямля скалістая*
*маці ўбогая*
*чым ты накорміш*
*дзяцей паўмёртвых*

*I днём гарачым*
*і халоднай ноччу*
*перад дзвярыма ветру*
*просіш хлеба*

*I днём і ноччу*
*марыш аб ружы*
*аб неўміручай ружы*
*адным толькі зярняці.*

**Юрка Баена**

## ПЭРШЫ ДЭНЬ ВЭСНЫ

на гуліці
рыхтык гроховяк
послініў каміэніэ
пуодехало сонце
жэлезняком
і сюп пуод муост
— рыбін хвуост

Юрэк скончыў з рыбамі
малюе буслы

а тая Біела ріка
нэ такая зноў біэла
налізалась
молуочных лугоў
і бульготіт
чэрвоносьцёю

вэчэром
міэсэць дыміў
капусьняком

**З. Сачко**





* ✲ *

*Ведаю*
*за каханнем час жалобы*
*свет у імя адно схаваны бы ў шар*
*што з клеткі рэбраў не вынуты наверх*
*ў свінцовым рытме сэрца пухне*
*пакуль выдзярэш*
*каб выратаваць*
*гэты злом ранейшай жамчужыны*
*і памятаць.*

*Каб хмуры твар у людзі панясці*
*і сэрца замураваць навек*
*ў бязруху каб ёй сну не абарваць*
*гэтак чароўнай у сасульках свечкі і вуалі*
*сам адзінокі бы гадзіннік у пустой хаце*
*умець застыць ў камень бездакорнасці*
*за каханнем бы па смерці — час жалобы*
*за каханнем бы перад смерцю — у валасах іней.*

**Кастусь Бандарук**

## Дзяўчына Яўгена

Яўген і дзяўчына ішлі моўчкі. Яе шэрыя вочы ззялі радасцю. Доўгія да пояса, светлыя валасы яна звязала блакітнай стужкай. На даўгаватым тварыку вусны былі яшчэ танчэйшыя і чырвоныя, нібы памаляваныя. Чорнае паліто рабіла яе яшчэ вышэйшай. Яўген глядзеў на дзяўчыну і не пазнаваў яе. Яго зялёныя вочы раскрываліся ўсё шырэй і шырэй. Яна адчула яго позірк і глянула на яго.

— Ідзі на аўтобус, а то скажуць, што задоўга я цябе вяла.

— Не, не пайду. Вось тут сяду і адпачну.

— А што, змучыўся? Ты ж яшчэ не стары дзед.

Сказаўшы гэтак, яна сабралася ісці, але Яўген пачаў даганяць яе. Была б, пэўна, уцякла, каб не зачапіла расшпіленым паліто за куст. Яўген прыгарнуў яе да сябе і прашаптаў:

— Не, не пакінеш ты мяне сёння.

— А вось і зараз уцяку, — засмяялася ціха. Тады Яўген узяў яе на рукі і пайшоў.

— Але ж ты лёгкая! — са здзіўленнем заўважыў хлапец. — Можна ўсё жыццё цябе насіць на руках.

— Так, але калі я буду цяжарнай, ты мяне не ўтрымаеш на руках.

— Але гэта будзе тады, калі мы пажэнімся, а ты ўсё не хочаш выходзіць за мяне. Чаму? — у голасе адчуваўся і жаль, і прэтэнзія. На гэта пытанне яна не магла адказаць. Яе бацькі не любілі Яўгена... Часта прыходзілася ёй плакаць. Але аб гэтым Яўгену не казала. Яе каханне, аднак, вытрымала ўсе пробы.

...Усміхнуўшыся сонцу і палям, яны пайшлі наперад, трымаючыся за рукі, як дзеці...

**Анна Дзенісюк**



Пачатак на стар. 1

# Свята ў Паўлах

на гэтай зале, тадышні кіраўнік школы Аляксей Максімюк. Гэта ён сваім добрым словам заахвоціў да культурнай дзейнасці моладзь. Штовечар збіраўся гурток у старэнькай школцы, спевамі і разыгрываннем дыялогаў з п'есаў выпрабоўваў свае тэатральныя здольнасці. А вынікаў не трэба было доўга чакаць. Ужо першая пастаноўка „Пінскай шляхты" В. Дуніна-Марцінкевіча захапіла і гледачоў і саміх акцёраў. І ад таго часу так у нашых Паўлах і павялося: штогод усе зімовыя вечары моладзь праводзіла ў школе, рыхтуючы штораз новую п'есу. Колькі радасці, перажыванняў і асабістага задавальнення прыносіла ім і ўсяму сялу кожная новая пастаноўка! І гэта, нягледзячы на надта цяжкія ўмовы працы: без электрычнага асвятлення і якойколечы святліцы. Што ж, бывала, збіралі па сялу некалькі дзесяткаў лямп і пры іх святле ў цесным школьным класе ставілі сваю праграму. А потым рушылі па суседніх вёсках, з гумарам і смехам прапанавалі ім тое, што змаглі падрыхтаваць. І людзі прымалі нас з адкрытымі рукамі і шчырай удзячнасцю. Цудоўныя гэта былі вечары! Ніхто тады нас не вазіў аўтобусамі, мы самі запрагалі сані і са спевам ляцелі па снежнай гладзі на выступленне. І нічога, што часта-густа даводзілася брысці па пояс у снезе ці мерзнуць у халоднай святліцы. Наш запал не астываў. І вось у 1964 годзе мы заваявалі першае месца ў Агульнапольскім конкурсе „Вёска бліжэй да тэатра" і атрымалі ва ўзнагароду 30 тысяч злотых. За гэта мы набылі крыху абсталявання ў сваю святліцу і першы ў Паўлах тэлевізар. Ён стаў для нашага сяла акном у свет, а для калектыву — наглядным дапаможнікам ва ўдасканальванні нашага сцэнічнага майстэрства.

Потым былі і іншыя, не менш каштоўныя ўзнагароды, што прызнаваліся працавітым і таленавітым паўлаўскім самадзейнікам павятовымі і ваяводскімі культурна-асветнымі ўстановамі, Галоўным праўленнем БГКТ і іншымі арганізацыямі. І было за што. Яны не толькі пашыралі сцэнічнае мастацтва ў наваколлі, але былі ініцыятарамі і ўдзельнікамі шэрагу добрых пачынанняў у вёсцы. Пры іх удзеле паўсталі ў грамадскім чыне будынкі школы, святліцы, стражацкай рамізы, крамы, была пракладзена жвіраваная шаша да Рыбалаў.

І ў гэты юбілейны вечар начальнік павету Б. Гулько ўручыў членам звыш дваццаціасабовага заслужанага паўлаўскага самадзейнага калектыву пахвальныя лісты, дыпломы, грашовыя ўзнагароды. І як жа ж прыемна было бачыць на сцэне сярод узнагароджаных заснавальніка самадзейнага руху заслужанага пенсіянера **Аляксея Максімюка** і таленавітую прадаўжальніцу яго пачынання, цяперашняга кіраўніка калектыву і дырэктара школы **Валянціну Мароз**, групу ветэранаў сцэны: **П. Бачынскага, Б. Галубоўскага, М. Нікіцюка, А. Раманюка, Л. Харытанюка,** якія дзейнічаюць у калектыве ад пачатку яго працы, і пятнаццаціасабовую групу дарослых і моладзі, што разам з імі цяпер прысвячаюць сябе нялёгкаму, але шляхетнаму самадзейнаму тэатральнаму мастацтву.



*Заснавальнік самадзейнага тэатральнага калектыву ў Паўлах Беластоцкага павету Аляксей Максімюк.*

Уручаючы калектыву прызнаны Галоўным праўленнем БГКТ магнетафон, старшыня **М. Самоцік** падкрэсліў:

— Я ўпэўнены, што мастацкаму калектыву ў Паўлах не будзе бракаваць працавітасці і настойлівасці, каб няспынна павышаць свой мастацкі ўзровень і ў далейшым славіць па ўсёй Беласточчыне вёску Паўлы і яе цудоўных, працавітых людзей.

Сваю юбілейную пастаноўку выбраных сцэн з „Немцаў" Л. Кручкоўскага ў перакладзе на беларускую мову і адаптацыі В. Мароз калектыў прысвяціў 30-годдзю перамогі над фашызмам. А калі на сцэне пачалі разгортвацца падзеі страшных дзён гітлераўскай акупацыі, у многіх гледачоў на вачах былі слёзы. І праўду сказала пісьменніца **М. Шулецкая**, віншуючы калектыў з юбілеем:

— Нават сталічныя варшаўскія акцёры могуць вам пазайздросціць і натуральнага таленту і незвычайна глыбокага ўздзеяння на гледачоў.

У другой частцы пастаноўкі ліліся са сцэны беларускія, рускія і польскія песні, а іх выкананне красамоўна сведчыла аб тым, што і ў вакальным майстэрстве паўлаўскія самадзейнікі таксама, дастойны пахвалы.

Далёка за поўнач гуляла ў святліцы моладзь пад аркестр гарадскога аддзела БГКТ з Беластока, а старэйшыя самадзейнікі за багата застаўленым сталом спявалі песні і прыгадвалі самыя яркія і часам гумарыстычныя здарэнні з мінулага дваццацігадовага творчага шляху калектыву. І не абышлося без таго, каб не заглянуць у яго будучыню. Будучыню, напэўна, не менш багатую і актыўную, чым заслужанае мінулае.

**Ігнат Снарскі**
фота аўтара



*І на юбілейным вечары кожны нумар праграмы паўлаўскіх самадзейнікаў выклікаў жывое зацікаўленне ў гледачоў.*

(Працяг са стар. 1)

# Сустрэча з Героем Савецкага Саюза

трабаванні і для большай выразнасці літаратурнага сюжэту прыйшлося мне адно адкінуць, а іншае паасобным героям дадаць. У асноўным аднак я апісаў дакладна ўсё тое, што прыйшлося перажыць мне і маім сябрам-пілотам.

Кніжка **„Суровае паветра"**, якая ў 1972 г. паўторна выйшла ў Куйбышаўскім кніжным выдавецтве, захапіла мяне ад першых старонак. Вось паветраны бой... У дзіцячыя гады неаднойчы даводзілася назіраць такія паднебныя сутычкі сталёвых птушак. Памятаю, мы з затоеным дыханнем чакалі моманту, калі нямецкі самалёт паляціць на зямлю.

— Каб толькі не савецкі! — паўтаралі мы адзін за другім, заціскаючы пальцы на шчасце.

— Я, між іншым, ваяваў і за вашу зямлю, за Беласточчыну, — заявіў Іван Чарнец. — Наш палявы аэрадром знаходзіўся недзе пад Саколкай. Там мяне адзін паляк ад смерці выратаваў, — указаў ён адпаведныя старонкі сваёй кніжкі. Чытаю:

„Побач стаянкі другой эскадрыллі знаходзіўся невялікі гай. Яго Чаранок выбраў ля свайго каманднага пункта. Вярнуўшыся ад Хазарава, ён паклікаў лётчыкаў і разам з імі накіраваўся ў гэты гай, каб падабраць месца. (...) Яны ўжо набліжаліся да дрэў, як раптам здалёк данёсся да іх чыйсці крык. Наперарэз ім бег чалавек. Махаючы рукамі, ён крыкам паўтараў адно:

— Панове! Стшэляць... міны!

(...) Бедна апрануты, босы паляк падбег да іх, адчайна вымахваючы рукамі і варочаючы перапалоханымі вачыма, ён штосьці хутка і голасна гаварыў, але з усяе яго гутаркі можна было зразумець толькі адно: — „Страляць, міны".

— (...) Крова — пуф! Вепш — пуф! Коза — пуф! — махаў ён рукамі.

— Ясна, — сказаў Чаранок. — Дзякую, што папярэдзілі, звярнуўся ён да селяніна. — Гай, аказваецца, замініраваны. Прыдзецца шукаць іншага месца".

Затым лётчыкі бамбілі варожыя аўтакалоны пад Ломжай, атакавалі пераправы на рацэ Нарва пад Візнай і Наваградам... Дзень у дзень — у баях, а з баямі — пад Варшаву, дзе Чарнец даведаўся аб прысваенні яму Залатой Зоркі Героя, а пасля водпуску — ваяваў у Прусіі і на подступах да Берліна. Вайну закончыў на польскай зямлі.

**Віктар Рудчык**

## Мала, але цікава

Найбольшым тэатрам свету з'яўляецца рымскі Калізей, пабудова якога была закончана ў 80 г. нашай эры. У ім было 48.000 седзячых і 5.000 стаячых месц. Сёння існуе толькі палова гэтай будоўлі. (ті)

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА II

Уступіўшы ў партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Гарун з галавой акунаецца ў палітычную дзейнасць сярод рабочых, рамеснікаў, вучняў. Нягледзячы на крайні радыкалізм эсэраў, іх партыя ніколі не атрымала шырокай падтрымкі з боку рабочых ці рамеснікаў. Таму толькі нешматлікія эсэраўскія групы дзейнічалі ў Мінску і іншых гарадах Беларусі. Праграма эсэраў распаўсюджвала думку аб тым, што шляхам індывідуальнага тэрору можна дабіцца перамогі над існуючай сістэмай. Зразумела, што тэорыя аб індывідуальным тэроры больш прыносіла шкоды, чым карысці, аднак гэтай праўды эсэры не разумелі.

Зрэшты, Гарун не меў нічога супольнага з тэрарыстычнымі актамі сваёй партыі. Займаўся ён прапагандай, распаўсюджваннем эсэраўскіх ідэй. Спецыялізаваўся ў друкарскіх справах. У нелегальнай друкарні публікаваў матэрыялы сваёй партыі.

У 1907 годзе Гарун быў арыштаваны царскай паліцыяй. Пачаткова сядзеў у мінскай і віленскай турмах. У 1908 годзе царскі суд прыгаварыў яго на многагадовую катаргу. Потым катаргу суд замяніў ссылкай у Іркуцкую губерню. З гэтага моманту пачынаецца многагадовае прабыванне ў сібірскай глушы. Сяло Макароўскае, якое было першым этапам яго сібірскага жыцця, знаходзілася амаль на тысячным кіламетры ад Іркуцка. І ў Макароўскім, і ў іншых мясцовасцях Сібіры займаўся Гарун сталярным рамяством. Аднак займаўся і другімі прафесіямі ўключна з земляробствам.

У 1911 годзе распачаў Гарун службу ў параходстве. Царскі маніфест з 1914 г. даваў Гаруну права на жыццё ў любым раёне Сібіры. У 1914 годзе пачаў ён працаваць на Лене, а годам пазней у Ленскіх капальнях золата.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 года яшчэ больш мяняе ўмовы жыцця і працы Гаруна. Пачынае ён працаваць ва ўстанове, якая займаецца абаронай працы. Установа гэта мела супольныя рысы з прафсаюзнымі арганізацыямі.

Урад Керанскага канчаткова знімае з Гаруна кляймо палітычнага злачынцы і гэта дазваляе яму вярнуцца ў Беларусь. Прыехаў Гарун у Мінск у канцы верасня 1917 года.

Нягледзячы на невылячальную ў тыя часы хваробу туберкулёз, якой захварэў у Сібіры, Гарун развівае шырокую палітычную і арганізацыйную дзейнасць. Пачынае рэдагаваць газету „Беларускі шлях", прымае ўдзел у бежанскім руху, падкрэслівае патрэбу дзейнічаць у беларускіх нацыянальных арганізацыях.

Кастрычніцкую рэвалюцыю прыняў Гарун непрыхільна. На думку паэта, ідэя аб'яднання розных народаў у адной дзяржаве была новай версіяй царскай сістэмы. У савецкі перыяд Гарун працаваў у камісарыяце сацыяльнага забеспячэння. Як вядома, савецкая ўлада ў Мінску пасля рэвалюцыі існавала не доўга. Пачынаецца акупацыя гэтага горада войскамі Пілсудскага.

Перыяд польскай улады ў Мінску — гэта перыяд бадай што найбольшых памылак Гаруна. Паэт не зразумеў істоты буржуазнага антыбеларускага характару палітыкі Пілсудскага. Наіўна верыў, што польская буржуазія і магнатэрыя прагнуць даць беларускаму народу свабоду і незалежнасць. Калі ў 1919 годзе Пілсудскі прыязджае ў Мінск, Гарун „ад імя" беларускага народу вітае яго як „вызваліцеля" Беларусі. Заахвочвае Пілсудскага ісці на ўсход і „вызваліць" усе беларускія землі, дзякуе за „дапамогу" беларускаму народу.

Польскія буржуазныя палітыкі адразу зразумелі, што Гарун можа быць паслухмяным інструментам у правядзенні іх махінацый. Нічога дзіўнага, што какетнічаюць з ім, дазваляюць стварыць беларускую вайсковую арганізацыю, надаюць яму чын палкоўніка. Усё гэта было смешнае і аперэтачнае, але парадокс заключаецца ў тым, што гэтай смешнасці не заўважаў сам Гарун. Адарваны на працягу многіх гадоў ад Беларусі, ад беларускіх падзей, ад махінацый заходніх дзяржаў, мог быць толькі ахвярай, не мог быць пераможцам. Горача верыў, што яго канцэпцыі вядуць беларускі народ да перамогі і не ведаў, што ён сам набліжаецца да бездны.

Калі ўрэшце войскі Пілсудскага былі прымушаны адыйсці з Беларусі, Гарун пайшоў з імі. У Беларусь больш не вярнуўся. Памёр у Кракаве 20.VII.1920 года.

 

# Актыўныя карэспандэнты

Найбольш актыўнымі членамі гуртка маладых карэспандэнтаў „Нівы“ ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы з'яўляюцца: Валя Анішчук, Кастусь Ваўрэшук, Анатоль Ціханюк (усе з кл. IV) і Валя Ціханюк (вуч. кл. III).

Гурток маладых карэспандэнтаў налічвае 30 асоб. Апекуном яго з'яўляецца настаўнік беларускай мовы мгр Васіль Сакоўскі. Маладыя карэспандэнты арганізуюць сходы, на якіх абмяркоўваюць свае ўжо друкаваныя матэрыялы і тыя, што рыхтуюць. Вучні-карэспандэнты многа пішуць не толькі аб сваёй школе, але таксама закранаюць шматлікія важныя справы з жыцця сваіх вёсак і ваколіцы.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




# ПАТРЭБНА КЕМЛІВАСЦЬ

Нядаўна ў Ваяводскім камітэце партыі ў Беластоку адбылася сустрэча журналістаў з кіраўніком эканамічнага аддзела ВК ПАРП Станіславам Зялінскім, які пазнаёміў нас з новым, вельмі важным агульнадзяржаўным мерапрыемствам гаспадарчага характару. Прэзідыум нашага ўрада пастановай № 12 ад 7 лютага 1975 г. загадаў правесці агульнадзяржаўны агляд канструкцыі і тэхналогіі выпуску розных тавараў, асабліва з металу і пластычных мас. Гаворачы болей зразумела, справа зводзіцца да таго, каб дакладна прыгледзецца, ці на выпуск канкрэтнага прадмета не ідзе замнога каштоўнай сыравіны, ці нельга знайсці нейкую іншую, болей простую форму прадукцыі гэтай часці або і цэлай машыны ці ўстаноўкі. Трэба таксама прасачыць, як выкарыстоўваюцца запасныя часткі, устанавіць ці не замнога іх адпраўляюць пасля кароткага тэрміну наператоп, ці нельга было б хаця б некаторыя з іх пасля аднаўлення паўторна пускаць у карыстанне.

Урад устанавіў канкрэтныя тэрміны і спосабы правядзення гэтага агляду.

Каб паглядзець, як ён праходзіць на практыцы, я наведаў два прадпрыемствы: Бельскую фабрыку камбіната **„Понарбяль“** і Сямяціцкі **„Жубрабут“**.

У Бельску ідзе цяпер аднаўленне адміністрацыйнай часткі будынка. Усюды пахне свежай фарбай. Дырэктар фабрыкі **Уладзіслаў Каліщук** перш за ўсё наракае, што ў палавіне мінулага года яго прадпрыемства вымушана было пераадолець значныя цяжкасці.

— Але мяне цікавіць, як у вас праходзіць агляд канструкцыі і тэхналогіі выпуску вашых вырабаў?

— Гэтым займаюцца ў беластоцкай дырэкцыі. Там створана, як мне вядома, спецыяльная камісія, у саставе якой знаходзяцца нашы тры інжынеры.

Адным з іх з'яўляецца **Рыгор Янкоўскі.** Ён паказвае мне рацыяналізатарскі праект Яна Брыкальскага і Мікалая Высоцкага. Прапануюць яны змену ліцця адной з асноўных частак імадла (ціскоў) — асноўнай прадукцыі бельскай фабрыкі. Адна гэтая змена дала б магчымасць сэканоміць толькі на адной бельскай фабрыцы звыш 44 тон чыгуна ў год, што дае суму звыш 350 тыс. зл.

**Вось гэта якраз тое, пра што ідзе гутарка ва ўрадавай пастанове аб аглядзе.** Толькі Ян Брыкальскі і Мікалай Высоцкі склалі сваю прапанову на многа раней, чымсьці пачала абавязваць гэтая ўрадавая пастанова. На жаль, дагэтуль іх прапанова астаецца выключна на паперы.

У Сямяцічах дырэктар **Станіслаў Мазурэк** нічога яшчэ не чуў пра гэты агляд. Затое шырока разгаварыўся пра вырабы сваёй фабрыкі.

— На апошнім пазнанскім кірмашы, гаварыў ён, — мы поўнасцю прадалі сваю прадукцыю на цэлы наступны сезон. Дадаткова яшчэ многа абутку, асабліва летняга, выпускаем на экспарт у Савецкі Саюз. Тройчы перавыканалі мы план па вартасці прададзенай прадукцыі.

Гэта добра. Ці аднак нельга сэканоміць і тут хаця б крыху сыравіны?

Думаў я аб гэтым, ходзячы па прадукцыйным цэху Сямяціцкай абутковай фабрыкі. Вось мякенькая поліурэтанавая пенка. Ад яе астаецца шмат зрэзкаў, якія пасля вывозяць на гарадскі сметнік, а затым паляць. Іх можна было б прадаваць нейкім рамеснікам або пенсіянерам, каб рабілі, напрыклад, падушкі для крэслаў і тапчаноў.

Гэта адносіцца да многіх іншых, так званых прадукцыйных адпадкаў і не толькі на сямяціцкім „Жубрабуце“. Трэба парваць з меркаваннем: калі сыравіна ўжо мне не прыдатная, дык ліха з ёю, няма чаго хваляваццa, на звалку і канец. Патрэбна кемлівасць, неабходна думаць, як урадавую пастанову пераўтварыць у практыку, як адносіцца да прадукцыі сапраўды пагаспадарску, бо ў добрага гаспадара не змарнуецца ніводная саломінка.

**М. Нурэцкі**

(Працяг са стар. 2)

# „ДЭМАКРАТЫЯ“ ПА — СЕУЛЬСКУ

ную ядзерную зброю. Сеульскі рэжым адкрыта разглядае замежныя войскі як выратавальны круг. І, паводле слоў часопіса „Юнайтэд Стэйтс ньюс энд Уорлд рыпарт“, „горача вітаў бы новыя амерыканскія падмацаванні“.

Нядаўна ў Паўднёвай Карэі разыграўся чарговы фарс-спектакль, 12 лютага праводзіўся так званы „рэферэндум“, мэтай якога, па афіцыйнай заяве, было „высветліць“ адносіны паўднёвакарэйскага насельніцтва да „канстытуцыі“ 1972 года. Задоўга да гэтай даты рэпрэсіўны апарат Пака пачаў сваё асабістае „высвятленне“ адносін з іншадумцамі. І, як звычайна, з дапамогай дубінак, турэмных засценкаў, тэрору і запалохвання.

Паводле паведамлення радыёстанцыі „Хангук мунхва“ паліцыя праводзіла „прафілактычныя арышты сярод студэнтаў, якія выступаюць супраць „рэферэндума“. Такі ж лёс напаткаў членаў выканаўчага камітэта Нацыянальнага таварыства за аднаўленне дэмакратыі пасля таго, як яны прынялі рэзалюцыю аб адмове ўдзельнічаць у „рэферэндуме“ і запатрабавалі аднавіць грамадскія свабоды, спыніць арышты дэмакратычных дзеячаў, вызваліць палітзняволеных.

У кампаніі тэрору актыўна ўдзельнічалі і іншыя органы сеульскага рэжыму. Так, генеральная пракуратура стварыла спецыяльныя групы па барацьбе з „парушальнікамі“ закона аб рэферэндуме“. У павышаную боегатоўнасць былі прыведзены армейскія часці. Як пісалі паўднёвакарэйскія газеты, ваенная вярхушка — стаўленікі Пак Чжон Хі — „паклялася згуртавацца вакол прэзідэнта і разграміць любога ўнутранага і знешняга ворага“.

У такой „дэмакратычнай“ абстаноўцы праходзіў „рэферэндум“. І хаця сеульская кліка аб'явіла аб „адабрэнні большасцю“ курсу Пак Чжон Хі, вельмі паказальна, што 3,5 мільёна чалавек прагаласавалі за адмену „канстытуцыі“, а больш чым 20 працэнтаў выбаршчыкаў наогул адмовілася ад удзелу ў гэтым фарсе.

**Г. Ляснeвіч**




## ДАВЕДНІК

Калісьці, на нейкай нарадзе ў Варшаве я ўжо выказвала свае думкі на гэтую тэму. Якраз тады я гаварыла, што ў календары павінна быць шмат разнастайных інфармацый, патрэбных сялянам, настаўнікам штодзённа і ў тым выпадку, калі не ведаюць яны, да каго звярнуцца са сваімі клопатамі.

Падтрымліваю, такім чынам, цалкам т. Яновіча. Рэдакцыя календара павінна паставіць сабе мэту, каб каляндар быў пастаянна пад рукою ў гаспадара. І будзе ў яго на стале, калі будзе яму прыдатны.

Беларускі каляндар мае ўжо свае немалыя традыцыі. Першы раз паявіўся ён у Вільні ў 1910 годзе. Беларускі каляндар на 1911 год быў узнагароджаны сярэбраным медалем на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Быхаве. Узнагароду атрымаў за тое, што карыстаўся поспехам у людзей, што ўмела быў дастасаваны да патрэб асяроддзя.

Бадай, карысна было б пазнаёміцца (у бібліятэцы Варшаўскага універсітэта ёсць шмат) і праштудзіраваць некалькі календароў (5-8) такога тыпу (матэрыял, форма, мова). Сёння наступілі новыя часы, дык ёсць і новыя патрэбы. Але заўсёды можна нечаму навучыцца.

Я толькі адно магу сказаць, што часта траціла вельмі многа часу, каб атрымаць даведкі такога тыпу, якія пасля знайшла ў календарах. Напрыклад: можна ў іх знайсці адрасы розных устаноў, гандлёвых пунктаў і г.д., склад праўленняў розных беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый, розныя аб'явы з таго часу, некаторыя факты аб важнейшых падзеях таго года ў літаратуры і г.д.

Аказваецца, што дакладныя інфармацыі служаць не толькі сучаснікам, але могуць быць цікавай крыніцай і для будучых чытачоў.

**А. Бергман**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# Уладзіслаў Праховіч

Вучань бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя Уладзіслаў Праховіч гэта таленавіты малады баскетбаліст. У мінулым годзе баскетбольная каманда, членам якой ён з'яўляецца, заняла першае месца ў павеце і нават удзельнічала ў ваяводскім чэмпіянаце.

Уладзіслаў Праховіч вядомы велагоншчык. Удзельнічаў ён двойчы ў цэнтральных гонках, якія ў мінулым годзе адбыліся ў Люблінскім ваяводстве. У апошніх спаборніцтвах велагоншчыкаў з сярэдніх школ Беластоцкага ваяводства Уладзіслаў Праховіч заваяваў заслужанае трэцяе месца.

**Тэкст і фота Я. Ц.**



# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ХРЫСЦІННАЯ*




*Ох я, малада, вольху я ламала,*
*вольху я, вольху я, вольху я ламала!* 2 разы
*Ох я, малада, з вольхі я ўпала,*
*з вольхі я, з вольхі я, з вольхі я ўпала!* 2 разы
*Ох я, малада, у рэчку я папала,*
*у рэчку я, у рэчку я, у рэчку я папала!* 2 разы
*Ох я, малада, окуня спаймала,*
*окуня, окуня, окуня спаймала!* 2 разы
*Ох я, малада, на базар хадзіла,*
*на базар, на базар, на базар хадзіла!* 2 разы
*Ох я, малада, гаршчэчка купіла,*
*гаршчэчка, гаршчэчка, гаршчэчка купіла!* 2 разы
*Ох я, малада, окуня зварыла,*
*окуня, окуня, окуня зварыла!* 2 разы

Ад Надзеі Грыцук, 1910 года нараджэння, і Марыі Юровец, 1921 года нараджэння, вёска Навасёлкі Беластоцкага павету запісаў у кастрычніку 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.



 

ВЕР-НЕ-ВЕР

# РАБІНА

**Сёння праверыць свой характар могуць людзі, што нарадзіліся паміж 1-10 красавіка і 4-13 кастрычніка.** Можа, галійскі гараскоп і не зусім супадае з усімі рысамі характару гэтых людзей, але параўнаць можна.

Не дай ашукаць сябе яе хрупкім выглядам. Рабіна бывае надзвычай моцная. Яна абаяльная, мілая, а яе лёгкі крок дазваляе пазнаць яе здалёк. Усмешка амаль ніколі не знікае з яе твару, але не столькі дзякуючы бесперапыннаму добраму настрою, колькі дзякуючы самакантролю. Умее падкрэсліць уласныя добрыя бакі, добра апранацца (любіць апранацца), у яе добры густ.

Рабіна лёгка прыстасоўваецца да змен. Любіць дастаўляць сваім блізкім радасць, нават калі гэта робіцца за кошт яе ўласнага дабрабыту. Рабіна не бывае эгаістычнай, але крыху ўсё ж эгацэнтрычная.

Самастойная, аднак часта даецца ўзалежніць сябе ад некага. Хацела б жыць уласным жыццём. Што б ні здарылася, мае комплекс віны, бо за ўсё адчувае сябе адказнай. Кантакт з ёю можа быць нялёгкі і складаны. Не хапае ёй прастаты.

Не чужыя рабіне артыстычныя замілаванні.

Рабіна — лаяльны і чэсны чалавек, можна на яе лічыць. Часамі бывае нават наіўная і дазваляе эксплуатаваць сябе.

У каханні дае шмат, але і шмат вымагае. Увесь час правярае свае пачуцці. Нельга яе расчароўваць. Рабіна не прабачае. Яе пачуццёвае жыццё бывае багатае.

Поўная непакою за заўтрашні дзень, яна бывае вельмі прадбачлівая, гаспадарная, у выніку чаго аб ёй часта думаюць як аб добрай супружаскай партыі.

Рабіна вельмі інтэлігентная і здольная, але нягледзячы на гэта рэдка рэалізуе ўсе свае жыццёвыя планы. Паглынаюць яе штодзённыя справы (усё гэта — пачуццё адказнасці).

**Астрон**



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## „CZERWONE GITARY"

*Заказвала Аня Бышчук з Кузавы.*

# Дні літаратуры і мастацтва БССР у Літве

Беларусь і Літва ўжо шмат гадоў спаборнічаюць у галіне эканомікі. Культурнае супрацоўніцтва між гэтымі рэспублікамі таксама разгортваецца паспяхова.

З 19 па 28 сакавіка гэтага года праходзілі ў Савецкай Літве Дні літаратуры і мастацтва БССР. Гарады і вёскі братняй рэспублікі наведала амаль 20 прафесіянальных і самадзейных харавых і танцавальных калектываў, асобныя выканаўцы, цэлыя там шматлікія групы пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, работнікаў фільма, радыё, тэлебачання і друку. Разам каля паўтары тысячы чалавек. Яны паказалі літоўцам усё, што ў беларусаў зараз найлепшае ў галіне культуры.

З жыхарамі сталіцы Савецкай Літвы сустрэліся вядомыя беларускія пісьменнікі І. Шамякін, А. Макаёнак, П. Панчанка, Еўдакія Лось і іншыя. Сустрэча закончылася вялікім канцэртам.

Беларускія артысты паказалі вільнянам оперы „Кармен" і „Фауст", а таксама балет „Лебядзінае возера". У кінатэатрах Вільнюса і іншых гарадоў дэманстраваліся беларускія фільмы, галоўным чынам тыя, якія адлюстроўваюць подзвіг савецкіх людзей у барацьбе з гітлераўскімі акупантамі: *„Альпійская балада", „Масква-Генуя", „Паланез Агінскага", „Вуліца без канца"* і іншыя.

На сустрэчы з журналістамі намеснік міністра культуры Літоўскай ССР тав. Д. Трынкунас заявіў, што Дні літаратуры і культуры БССР сталі новым вялікім крокам на шляху культурнага супрацоўніцтва дзвюх братніх рэспублік. Шматлікія мерапрыемствы культурнага характару і сустрэчы праходзілі ў 37 раёнах Літвы. (вр)






**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 19 год. Вучуся ў апошнім класе ліцэя. На канікулах я была на танцах у суседняй вёсцы і там пазнаёмілася з хлопцам, старэйшым за мяне на два гады. Ён мне вельмі спадабаўся і мы пачалі сустракацца. Саша працуе шафёрам у тым горадзе, дзе я вучуся. Саша ўвесь час баяўся, каб я яго не пакінула і хацеў хутчэй жаніцца. Я ведаю, што ён хлопец культурны, не курыць і не п'е. Бацькам маім Саша таксама падабаецца. Можа ўсё было б і добра, каб не тое, што я пабывала ў сяброўкі на вяселлі і там пазнаёмілася з Валодзем. Ад гэтай пары Валодзя пачаў наведваць мяне. Ён мне больш падабаецца за Сашу. Прыгожы, але характарам ён намнога горшы ад Сашы. Вядзе сябе некультурна. Бацькі кажуць, каб я пакінула Валодзю, бо Саша ж такі вельмі спакойны. І я ўжо сама не ведаю, што рабіць! Каторага з іх выбраць? Парай мне, „Сэрцайка".

**Іра з Гайнаўшчыны**

**Іра!** Адлажы справу хлопцаў і сканцэнтруй усю ўвагу над кніжкамі. Хутка ж канец тваёй вучобы ў ліцэі, і роздумы над хлопцамі могуць пашкодзіць у паспяховым закончэнні яго. На будучыню, мая рада адносна выбару хлопца такая: не з прыгажосцю, а з розумам жывеш. Маладым цяжка гэта зразумець, але, на жаль, такая праўда. Прыгажосць з часам праміне, а характар астанецца. Памятай, Іра, аб гэтым!

**„Сэрцайка"**

Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Ніву"

Куток практычных ведаў

ЯК ЦЯБЕ БАЧАЦЬ, ТАК ЦЯБЕ ПІШУЦЬ

## Летні касцюм са штанамі



Такі элегантны камплект на вясну падыходзіць шчуплым, стройным жанчынам. Складаецца ён з доўгіх штаноў і кароценькага жакету. Модны дапасаваны сілуэт падкрэслены крыльцамі, ушытымі спераду і ззаду ў вертыкальныя швы, расшыраючымі плечы, і поясам, якім закончан жакет. Краі каўняра, крыльцаў, двубортны перад, пояс і манжэты адстрочаны дэкаратыўнай строчкай. Рукавы ўшываныя. Штаны (яны таксама на поясе) уніз расшыраны.

Такі касцюм варта пашыць з нямнучагася ільну з эланай. Калі матэрыял мае шырыню 80 см, то патрэбна яго 5 метраў. Мадэль з маскоўскага Дома моды.

**Гаспадыня**







Па дарозе ў штаб Сівы зазірнуў у дом шпіталя, які размясціўся ў вялікім юнкерскім доме. Зазірнуў проста так, з цікаўнасці. А можа, і таму, што пачуў музыку. Хтосьці добра іграў на акардэоне. Потым ён пачуў песню. Высокі мужчынскі голас амаль фальцэтам спяваў:

Слети к нам, тихий вечер,
На мирные поля...

У двары танцавалі. Раненыя ў павязках з медсёстрамі.

Над бальнічным садам стаяў устойлівы водар вясны. У белару褐жовым цвіценні сталі і чаршні. Белымі былі халаты сясцёр і бінты на раненых. Ад белага стракацела ў вачах. „Заканчваецца вайна, — падумаў Сівы. — І першымі гэта адчуваюць жанчыны".

Ён і сам адчуваў незразумелае, ні з чым не параўнальнае пачуццё — быццам цябе падхапіла моцная цёплая плынь і нясе-нясе ў нейкую невядомую цудоўную далячынь. А там, у гэтай далечыні, хтосьці чакае, чакае менавіта яго, маёра, якога ніхто чакаць не павінен, — усіх родных забіла вайна.

П'янячае адчуванне блізкай перамогі і сваёй сілы, ранняя вясна — усё гэта бударажыла людзей, прытупляла адчуванне небяспекі.

Армія абышла Берлін і тым самым завяршыла акружэнне германскай сталіцы. Адна з дывізій накіравалася насустрач саюзнікам, якія падыходзілі да Эльбы з захаду. Гітлераўцы яшчэ на нешта спадзяваліся, адчайна супраціўляліся. Яны біліся літаральна за кожны дом.

Ідучы па вуліцах акуратнага нямецкага гарадка, захопленага раптоўным ударам з флангу і таму зусім цэлага, калі не лічыць выбітых шыбаў у вокнах, Сівы думаў аб маючай адбыцца размове з начальнікам разведаддзела арміі. Ён ведаў палкоўніка Букрэева з першага месяца вайны, сябраваў з ім той скупой мужчынскай дружбай, якая не цэрпіць сумных тлумачэнняў, недарэчнай недагаворанасці, дробязнай крыўды.

Букрэеў сустрэў Сівога на зашклёнай тэрасе, паўабняў, пасадзіў у глыбокае плеценае крэсла, востра зазірнуў у вочы.

Тэрасу залівала гарачае веснавое сонца. З вуліцы даносілася вясёлая салдацкая пераклічка.

— Ты глянь... танкі, танкі дзе спыніліся! На самым відавоку. Па „юнкерсах" засумавалі?

— Няма ў Гітлера „юнкерсаў", Коля. Скідай адзенне — загараць будзем...

— Усе звар'ацелі, — прабурчэў Букрэеў, цяжка апускаючыся ў крэсла насупраць Сівога.

Пажылы з сівымі вусамі палкоўнік падобны быў на стомленага аратага, які вярнуўся з поля. Глыбокі шрам перасякаў яго квадратны пануры твар. Калі палкоўнік гаварыў, шрам сцягваў скуру на правай шчацэ, і тады здавалася, што начальнік разведкі смяецца.

— Ты ведаеш, што я цяпер успомніў? — Букрэеў ледзь прыкметна ўсміхнуўся. — Кляновую алею ў Цімірязеўскім парку. Такі ж вось красавік і лісточкі, яшчэ загорнутыя ў дудачку. Чорт ведае чаму...

— Можа, ажаніўся ты той вясной, Іван Савасцьяныч? — насмешліва адказаў Сівы, услухоўваючыся ў размовы на вуліцы.

— Бірук ты, — прымірэнча ўздыхнуў палкоўнік. — Я з табой як з сябрам... Думаў лірычная размова атрымаецца.

— Не крыўдуй, Іван Савасцьяныч, — ціха загаварыў Сівы. — Да логава дайшлі, абклалі звера, а я ўсё нашу граніцу забыць не магу... Мы сядзім у блакгаузах, патроны на зыходзе, а яны — тэрмітнымі снарадамі. Канюшня загарэлася... Коні збілі вароты... Думаеш, шкадавалі яны коней? Паляванне наладзілі, сволачы. З вінтовак, як па мішэнях. Адзін гняды па мянушцы „Кардон" толькі і ўцёк у тыл...

Букрэеў глядзеў на Сівога, і боль сціскаў яго сэрца. Чацвёрты год яны ваявалі разам. Палкоўнік помніў той дзень, калі ля палаючага лесу прама да наспех выкапаных акопаў выйшаў чалавек у лейтэнанцкай гімнасцёрцы. Ён быў быццам створаны для бою. Хударлявы, сур'ёзны, з праніклівым позіркам вузкіх, наўлоўных вачэй. Куткі яго моцнага рота былі быццам запячатаны на баках глыбокімі маршчынкамі. Сера-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Дзякуй, друг шафёр!

Расказвала мне адна жанчына, як яна хацела ехаць у Гайнаўку. Прыйшла на аўтобусны прыпынак. Людзей не многа. Калі прыехаў аўтобус, кожны, хто сядаў, казаў: „Месячны". Жанчына не паспела схлусіць і адна асталася на прыпынку, а аўтобус паехаў. Жанчына папрасіла кандуктара, каб і яе ўзяў, але той са злосцю зачыніў дзверы.

А вось цяпер раскажу, як робяць людзі, якія маюць сумленне і разумеюць іншага чалавека. Тут ужо я сам быў навочным сведкам. Быў я пасажырам аўтобуса № АВ 9622. Шафёр гэтага аўтобуса прыпыніўся ў палове дарогі паміж Дубічамі Асочнымі і Гайнаўкай, каб узяць чалавека, год 40, які прасіў затрымацца, паднёўшы руку. Які людскі жэст шафёра!

Другое падобнае здарэнне было праз некалькі дзён. Аўтобус выязджаў з Гайнаўкі. На вуліцы Бельскай ёсць прыпынак на жаданне пасажыраў. Адзін чалавек не паспеў дабегчы да гэтага прыпынку і таксама на дарозе падняў руку. Шафёр затрымаў свой аўтобус і адчыніў дзверы пасажыру. Была гадзіна $18^{00}$. Мяне ўсхваляваў такі ўчынак шафёра і я папрасіў яго сказаць свой службовы нумар. Адразу ён не хацеў гэтага зрабіць, але калі я высядаў на маім прыпынку, шафёр падняў рамушок службовай сумкі і паказаў свой нумар. Быў гэта нумар 53.

На аснове гэтых прыкладаў можна сказаць, што і без злосці можна жыць і даваць задавальненне іншым людзям. Такія шафёры, пра якіх я вышэй пісаў, — гэта людзі, адданыя працы і іншым людзям-пасажырам. Шкада толькі, што рэдка пападаюцца такія людзі.

Праз рэдакцыю я хачу звярнуцца да прадпрыемства ПКС і перадаць шчырую падзяку тым двум шафёрам.

**Мікалай Мароз**
Вроцлаў




**ЧАС**

*Ты бяздонны*
*няспынны*
*парываеш*
*ветрам*
*і ляціш*
*у будучыя далі*
*у цябе*
*жыццё чалавека*
*як ліст*
*ад вясны да восені*
*і яго мэта*
*на зямлі.*

**Янка Брацкі**

бро густа пакрыла чорныя валасы. Пагранічная форма сядзела на ім ладна, быццам пашытая па заказу.

Капітан Букрэеў тады прыдзірліва разглядаў і дакументы лейтэнанта-пагранічніка, і яго самога, задымленага, запыленага так, што і твар разабраць немагчыма.

Лейтэнант быў паранены ў руку і ў шыю, і, відаць, моцна кантужаны. Ён заікаўся і ў час размовы прыкрываў вочы далонню, быццам засланяючы ад чагосьці пякучага, што б'е прама ў зрэнкі.

— З-заст-та-вы н-няма, я застаўся ад-дзін, — толькі і прамовіў пагранічнік, і было незразумела, як жа ён вырваўся з акружэння, прайшоў праз палаючы лес ды яшчэ прынёс з сабою два нямецкія аўтаматы.

Для байцоў батальёна, якія яшчэ не бачылі ніводнага гітлераўца, чалавек з граніцы быў героем. Букрэеў помніў, як яны па адным і групамі прыходзілі ў бліндаж паглядзець на соннага лейтэнанта. Ён стагнаў у сне, цяжка, з прысвістам дыхаў і моцна сціскаў абедзвюма рукамі трафейны аўтамат.

— Сівы, — ласкава сказаў хтосьці з байцоў, разглядаючы не па гадах суровы твар пагранічніка...

(Працяг будзе).

## Маладыя з Ласінкі

Як добра, калі ў вёсцы ёсць святліца і калі ў такой святліцы парадак. Такая святліца ў Ласінцы. Тут моладзь — члены БГКТ і ЗСМВ, як адна сям'я працуюць дружна. Добра працуе рада святліцы. Дзяўчаты і хлопцы рыхтуюць мастацкія выступленні, з якімі ездзяць па гайнаўскіх вёсках. Нядаўна па запрашэнню моладзі з Крыўца яны выступілі з праграмай у гэтай вёсцы. (вб)

## „Казімір Вялікі" ў Белавежы

У палове лютага ў Белавежскай пушчы, недалёка ад пасёлка Звярынец, калектыў „Ілюзіён" рабіў здымкі да двухсерыйнага польскага кінафільма „Казімір Вялікі" паводле сцэнарыя Эвы і Чэслава Пэтэльскіх. Яны ж і рэжысёры. У сцэнах палявання караля Лакетка і яго сына Казіміра на зуброў прымала ўдзел некалькі акцёраў і звыш 20 статыстаў — жыхароў Белавежы.

Фільм прысвечан апошняму каралю з роду Пястаў — Казіміру III Вялікаму, які ў час свайго панавання (1333-1370) давёў Польшчу да вялікай магутнасці, ажывіў гандаль і рамяство, заснаваў Кракаўскую акадэмію.

Галоўную ролю іграе Кшыштоф Хамец. У іншых выступаюць — Ігнат Махоўскі, Зоф'я Сарэтак, Тадэуш Ламніцкі, Веслаў Голас, Баляслаў Платніцкі, Варвара Вжэсінская, Уладзіслаў Ганча, Сцяпан Фрыдман, Януш Быльчынскі.

Фільм знімаецца таксама каля Познані і ў Чэхаславакіі.

**П. Байко**

## Адзін за ўсіх, усе за аднаго

Далёка, у глушы, сярод палёў і кустарнікаў Гайнаўшчыны, раскінулася невялічкая вёсачка Пагулянка. Яна налічвае ўсяго 18 сяліб. Яшчэ нядаўна ў Пагулянцы не было электрычнага святла. Сяло было адрэзанае ад свету.

Але ў 1973 годзе ў Пагулянцы заміргацелі электрычныя лямпачкі. На дамах паявіліся тэлевізійныя антэны. Людзі пачалі купляць халадзільнікі, сціральныя машыны. Пачалі жыць па-новаму.

Адміністрацыйна Пагулянка падлягае Чаромхаўскай гміне. А вось што гаворыць пра вёску начальнік гміны мгр інж. Сяргей Сац:

„Згодна і дружна жывуць людзі ў Пагулянцы. Не чуваць тут сварак, няма суседскіх парахункаў. Адзін за ўсіх, усе за аднаго — гаворыць прымаўка. І тут так. Людзі памагаюць адзін аднаму. Нядаўна нарадзілася ў Пагулянцы думка, каб стварыць калектыў супольнай апрацоўкі зямлі. Людвік Чэрмак, Казіміра Янэцкая і Уладзіслаў Сабескі рашылі аб'яднацца і спалучыць свае трактары і сельскагаспадарчыя машыны ў адну групу і разам гаспадарыць. Калі спатрэбіцца, памогуць і іншым гаспадарам. Гэта добрая і каштоўная ініцыятыва".

І яшчэ адзін факт сведчыць аб згодзе ў гэтай вёсцы. Адразу пасля вайны солтысам быў выбраны Уладзіслаў Сабескі і дагэтуль ён выконвае гэтыя абавязкі. 31 год — шмат часу! Добрасумленнасць і дбайнасць пра справы вёскі дазволілі Уладзіславу Сабескаму заваяваць давер і пашану ў аднавяскоўцаў.

Як жа прыемна пісаць пра такую вёску і пра такога солтыса!

**Мацейка**

## Што новага у бельскім ВСС?

Бельскі рэстаран „Падляшанка", дзякуючы добрай працы (выдатная ежа, мілая абслуга і новыя стравы), атрымала за 1974 год у агульнакраёвым конкурсе „Сярэбраную патэльню".

Кіраўніком рэстарана з'яўляецца Яўгенія Аляксеюк.

* * *

На рэкламу ў гандлі ў Бельску звяртаюць вялікую ўвагу. Вітрыны вокнаў у крамах густоўна і цікава прыбраны. Заслуга гэта Канстанціна Якімюка, які адказвае за рэкламу ў бельскім гандлі.

* * *

У святліцы „Практычнай пані" ў Бельску праводзяцца для дзяцей і моладзі розныя гульні і заняткі. Папулярная гэта святліца.

**І. Кірызюк**

## Новыя крамы ў Бервісе

Бервіха — так называецца вялікая вёска ў гміне Сідра на Сакольшчыне. Крама тут змяшчалася дагэтуль у найманых малых пакоях, дзе не было месца на большую колькасць тавараў. А пакупнікоў прыходзіла многа, бо прыходзілі таксама людзі з Саломенкі і Сякеркаў.

І вось ГС у Сідры пабудаваў у вёсцы новую вялікую краму. Усё тут на месцы — і склады на запасныя тавары, і халадзільнік, і ўсе іншыя прылады. Людзі задаволены. **Т. К.**

## Пасля 30 год расстання

Уладзімір Хомік са Слоі на Сакольшчыне і Дзям'ян Лісоўскі з Зубава ў Бельскім павеце ў гадах 1936-39 сядзелі разам у беластоцкай турме за дзейнасць у КПЗБ. Разам у турме змагаліся за лепшыя ўмовы жыцця палітвязняў, складалі пратэсты і аб'яўлялі галадоўкі.

У 1938 годзе іх вывезлі ў турму ў Драгабыч і там пасадзілі ў адну камеру. Калі ў 1939 годзе пачалася нямецка-польская вайна, вязні разбілі турму і выйшлі на волю. Дзям'ян Лісоўскі вярнуўся ў Зубава і паступіў на працу ў міліцыю ў суседні Бельск, а Уладзімір Хомік быў выбраны старшынёй сельсавета ў Сідры на Сакольшчыне. З той пары яны не бачыліся.

Пасля нападзення гітлераўцаў на СССР Лісоўскі апынуўся ў Краснадарскім краі, а Хомік вярнуўся ў родную вёску, дзе жыве дагэтуль. У 1972 годзе Лісоўскі напісаў пісьмо ў Ваяводскі камітэт партыі ў Беластоку і ўспомніў у ім пра Уладзіміра Хоміка. З камітэта і даведаўся Хомік пра сябра. Сталі перапісвацца.

Нядаўна Лісоўскі прыехаў наведаць сваю сястру ў Беласток. Сустрэліся і старыя сябры. Якая ж радасная была гэта сустрэча! **Т.К.**

## Гміннае свята жанчын

Дзень жанчын у Нараўцы прайшоў вельмі ўрачыста. Многія жанчыны атрымалі ўзнагароды. Старшынёй гміннай рады жанчын у Нараўцы з'яўляецца Вера Бароўская.

На гэтай урачыстасці жанчыны прынялі абавязацельства, што кожная папрацуе ў лесе два дні, а за зароблены грошы палажаць памятную пліту савецкім салдатам, што пахаваны на могілках у Нараўцы.

Ішла вельмі цікавая дыскусія. Яўгенія Богуш з Міклашэва расказала аб працы гуртка вясковых гаспадынь (33 асобы), які займаецца пасадкай лесу (зарабілі яны каля 6 тыс. зл.), працавалі таксама пры пабудове дарогі Міклашэва-Альхоўка (1 км), арганізуюць дзяцінцы, розныя курсы.

Эма Харкевіч з Ляшукоў (34 асобы ў гуртку) — старшыня гуртка, радная гміны, грамадскі апякун. Іх гурток займаецца кантрактацыяй ільну, інспектамі, арганізуе курсы.

Старшыня КГВ з Ахрымаў — настаўніца. Гурток тут налічвае 35 членаў. Арганізуюць курсы, лекцыі на розныя тэмы, дбаюць пра чысціню і парадак у вёсцы і на сваіх палях.

Валя Янцэвіч са Скупава (35 асоб) — член гміннага камітэта КГВ, старшыня паяднаўчай камісіі пры гміне. Гурток займаецца кантрактаваннем ільну, жыта, пшаніцы на зямлі дзяржаўнага фонду. Усе члены КГВ тут з'яўляюцца таксама членамі БГКТ. Жанчыны прыгожа спяваюць, выступаюць з беларускімі песнямі ў сваёй і суседніх вёсках.

Жанчыны Нараўкаўскай гміны ткуць прыгожыя дываны рознага гатунку. Ольга Адамюк з Ахрымаў за год тчэ больш як 100 дываноў, вядомых ва ўсёй краіне. (вб)

## Падзяка гарадскім уладам

Ад імя пасёлкавага камітэта № 4 і жыхароў новага пасёлка на Падлясі ў Гайнаўцы складаю сардэчную падзяку ўпраўленню горада Гайнаўкі за выкананне энергетычнай лініі на новым пасёлку і асвятленне вуліц: Жабяй, Качай, Гусінай, Бацяняй і Чайкі.

старшыня пасёлкавага камітэта
**Э. Вайсковіч**

## У Луцэ вучацца

Дырэкцыя пачатковай школы ў Луцэ ў Гайнаўскім павеце пастаралася і арганізавала ў вёсцы двухгадовае прафесіянальнае навучанне ў галіне сельскай гаспадаркі. Школу гэтую завуць тут „студый". Пасля заканчэння „студый" выпускнік мае прафесію гаспадара, поўную пачатковую адукацыю і можа паступаць вучыцца далей у сярэднія школы.

На студыі ў Луцэ вучыцца 35 дарослых асоб, пераважна жанчыны. Гэта жыхары не адной толькі вёскі Лукі, але таксама Болтрыкаў і Гарбароў. У арганізацыі школы многа памог агранам з Нараўкі — Аляксандр Харкевіч, які таксама выкладае ў школе. (вб)

## Спартакіяда ў Міхалове

У Міхалове адбылася гмінная зімовая спартакіяда на кубак прэзаса ГС. Арганізавалі яе ЛЗС і ГС у Міхалове. Пераможцам па шахматах стаў Браніслаў Мандруш, па шашках — Іван Сікора, па настольным тэнісе — таксама Браніслаў Мандруш, па штанзе — Люцыян Самойлік, а другое месца заняў Уладзімір Грэсь.

Каманднае першынство заваявала дружына ЛЗС са Школы механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове. Яны і атрымалі кубак. Другое месца заняла каманда ЛЗС з Пянькоў.

Спаборніцтвы адбываліся ўпершыню. Найбольшую каманду выставіла вёска Пянькі — 20 асоб. Добрая тут каманда, а кіруе ёй старшыня гуртка ЛЗС у Пяньках — Здзіслаў Карповіч.

Цяпер усе рыхтуюцца ўжо да летняй спартакіяды на кубак начальніка гміны ў Міхалове. **ОзВ**

## Варта зацікавіцца

Амаль кожная вёска цяпер мае сваю краму, а калі не краму, дык хоць нейкі прадуктовы кіёск. А вёска Рудка ў Гайнаўскім павеце ніколі не мела і не мае ані крамы, ані кіёска. Няма тут і клуба, дзе б прадаваліся найбольш патрэбныя тавары (цукар, мыла, сшыткі). Жыхары кожны раз вымушаны хадзіць за дробязямі ў суседнія вёскі — Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы або Грабавец, куды ісці трэба каля двух кіламетраў дарогі.

Хоць Рудка вёска і невялікая (каля 20 гаспадароў), а ўсё ж нейкі клуб „Руху" з таварным кіёскам тут неабходны.

**М. Панфілюк**

## Тэлевізар у клубе

Пра клуб у Зубаве ўжо пісалі. Вядома, якую ролю адыгрывае цяпер у жыцці вёскі клуб. Калі ён ёсць, ёсць дзе правесці вольны час не толькі летам, але перш за ўсё ў доўгія зімовыя вечары. Можна пагуляць у шахматы, паслухаць радыёперадачы. Цяпер у зубаўскім клубе ёсць таксама і тэлевізар. Ён прыцягвае ў клуб многіх людзей.

**Жэня Аўсенюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЗАЦІКАВІЛІСЯ ШКОЛАЙ У КРУГЛЫМ ЛЯСКУ

**Адказвае:**

**Urząd Powiatowy w Białymstoku Wydział Oświaty, Wychowania i Kultury.**

W odpowiedzi na pismo z dnia 27.I.75 r. Wydział Oświaty, Wychowania i Kultury Urzędu Powiatowego w Białymstoku informuje, że w wyniku przeprowadzonej lustracji budowy szkoły w Krugłym Lasku w dniu 10 lutego br. stwierdzono wykonanie robót wewnętrznych. Wybudowano piece, ułożono podłogi, wykonano instalacje elektryczne.

Obecnie schną tynki i po upływie 2 tygodni będzie możliwość dokonania malowania ścian.

Wybudowano ganek, o którym pisano w „Niwie".

Należy podkreślić, że notatka w prasie przyczyniła się do lepszego zainteresowania się Urzędu Gminy w Michałowie w/w budową.

Przy obecnym tempie robót należy wnioskować, że budynek zostanie przekazany do użytku w maju br.

**Inspektor Szkolny**
**mgr Aleksander Trusiak**

**NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.**

## Калі б не раскрыў рот...

Бабра выклікалі на лясны дыван.

Леў сказаў:

— Слова для інфармацыі мае Мядзведзь.

— Таварышу Бабру была даручана адказная дзялянка гаспадарства — будаўніцтва, — інфармаваў Мядзведзь. — Аднак Бабёр дагэтуль лапаю аб лапу не ўдарыў. А мінула ўжо два месяцы.

Леў дакорліва паглядзеў на Бабра:

— І не сорам?

Бабёр апусціў вочы. Думаў: „Адкрый рот, скажы ўсю праўду, выганяць".

Бабёр скромна маўчаў.

Грамада вырашыла: „Улічваючы правільнае разуменне Бабром крытыкі, абмежавацца заўвагай..."

Праз некалькі месяцаў Бабра зноў выклікалі на лясны дыван. Інфармаваў зноў Мядзведзь:

— Таварышы! Таварыш Бабёр дагэтуль не зрабіў адпаведных вывадаў. Будаўніцтва ў лесе не прасунулася ні на крок...

Бабру доўга мылілі шыю. Білі на сумленне. Урэшце аб'явілі яму вымову.

Бабёр думаў: „Адкрыю рот — выганяць".

Моўчкі пачухаў патыліцу і на задніх лапках пакінуў лясны дыван...

Наступілі халады.

Бабёр зноў стаяў на лясным дыване. Леў стукнуў лапай па пяньку:

— Колькі гэта будзе цягнуцца? Зіма на носе! Малады, энергічны, а работы ні на ёту...

„Раскрыю рот, — падумаў Бабёр, — усё роўна выганяць. Лепш памаўчу".

Леў яшчэ раз стукнуў лапаю па пяньку:

— Растлусцеў, разленаваўся!..

Тут Бабёр не вытрымаў. „Было не было", — думае. Раскрыў рот:

— Таварышы...

Усе глянулі на Бабра, і вочы іх зрабіліся круглыя ад здзіўлення. У роце ў Бабра не было ніводнага зуба...

— Як гэта зразумець? — праз хвіліну маўчання спытаў Леў. — Калі? Дзе?

— Даўно. Гадоў пяць таму назад... Выгрызаў матэрыял у „Галоўлесапастаўбудзе"...

Яўген Дудар



*Без слоў.*

# НІЎКА

## АБ ПРЫРОДЗЕ



Прыроду мы заўжды шануем.
Заўжды адносімся з даверам,
Нібы нявесту, мы раўнуем
Яе да розных браканьераў.

І каб яе не раскрадалі,
Каб вечнаю была і чыстай,
Мы для аховы пастваралі
Паўсюдна розных таварystваў.

Цяпер яна не ў засмучэнні —
Яна абуджана заўсёды,
Бо таварystваў гэтых члены,
Узяліся шчыра за прыроду.

Вось, скажам, тыя ж рыбаловы.
Як рыбу зберагаць, захоўваць,
Яны да поўначы гатовы
Праблему гэту абмяркоўваць.

Калі касцёр гарыць, вядома,
Калі вядро вісіць за дужку,
І варыцца не так, як дома,
У тым вядры трайная юшка...

Вось пасяджэнне паляўнічых.
Прамоўцаў тут заўжды багата.
І кожны той прыродзе зычыць
І светлых дзён, і ясных святаў:

Маўляў, на фауну і флору
Замок павесім. Браканьерам
Мы зададзім такога фору...
І так далей, такім манерам.

Грыміць ад стрэлаў там
шматлікіх,
Ляцяць далолу птушкі з неба.
„І хоць наедак невялікі,
Але ж душу адвесці трэба", —

Прамовіць іншы.
Мне ж здаецца,
Тут нешта трэ зрабіць,
парушыць...
Шчыміць маё ад болю сэрца,
Калі забітых бачу птушак.

Даўно б такі парадак трэба
Завесці паміж нашым братам:
На пасяджэннях — будзь са
стрэльбай,
А ў лесе — з фотаапаратам.

Ул. Правасуд

### КЕМЛІВЫ МУЖ

Паляўнічы, вяртаючыся з палявання без здабычы, зайшоў на рынак і купіў там труса. Прыйшоўшы дамоў, падае жонцы быццам зайца ўпаляванага.

— А чаму ён абдзерты? — падазрона пытае яна.

— Разумееш... Калі заяц убачыў мяне з дубальтоўкай, дык так рвануў з месца, што выскачыў з уласнай шкуры. Тут я яго і палажыў.

### НЕ БЯДУЙ, МАМА!

Ад'язджае сын-студэнт на практыку ў тайгу. Бядуе маці:

— Як ты там будзеш?.. Цябе ж камары заядуць!

— Не бядуй, мама, нам накамарнікі выдалі.

— А што гэта такое?

— Гэта такая штука, што надзяваецца на камара, каб ён не кусаўся.

### ГУМАР 3

### НАПАІЎ

— Напаіў ты каня?
— Напаіў!
— А чаму ж у яго морда сухая?
— А вады не дастаў!



**— Смяротна люблю прыроду, — хваліўся браканьер.**

**...Усё жыццё прасядзеў каля мора жыццёвага, чакаючы пагоды.**



### КІНДЗЮЛІС

П'яніца разважае:

— Колькі трэба было часу, каб з малпы выйшаў чалавек?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— А колькі спатрэбілася часу, каб пераўтварыцца ў свінню?

### З ГАБРАВА

Спыталі аднаго габраўца, чаму, купляючы дровы, ён выбірае сучкаватыя палены.

— А таму, — адказаў габравец, — што яны грэюць два разы: першы раз — калі іх колеш, другі — калі яны гараць у печы.



*На лоне прыроды.*

### У ЗООМАГАЗІНЕ

— Ёсць у вас папугай, які ўмее размаўляць? — пытае пакупнік у заамагазіне.

— Вядома, ёсць. Вось гэты, напрыклад, блакітны. Ён каштуе пяцьдзесят долараў.

— А гэта не задорага?

— Што вы, ён ведае цэлых сто слоў!

— **А той зялёны?**

— Ён каштуе сто, таму што ведае дзвесце слоў.

— А той жоўты, што сядзіць з краю?

— Ён каштуе трыста, але папярэджваю: ён не ведае ніводнага слова.

— Тады чаму ж ён такі дарагі?

— Таму што ён начальнік над тымі двума папугаямі.

### ВЕРНАЯ ПРЫКМЕТА

На беразе вялікага возера праваднік тлумачыць турыстам:

— Калі адсюль відзён другі бераг, то гэта значыць, што будзе дождж.

— А калі не відзён?

— Значыць, дождж ужо ідзе.

### „ЦІКАЎНАЯ"

Жанчына аглядае на выстаўцы карціны. З асаблівай увагай прыглядаецца на цудоўны летні пейзаж. Нарэшце бярэ запісную кніжку і занатоўвае назву карціны і прозвішча мастака.

— Вы хочаце купіць гэтую карціну? — пытаецца ў яе.

— Не, я хачу даведацца ў мастака, дзе ён быў летам.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Пісавоцкай з Бельска, М. Дарошавай з гайнаўскага белліцэя і Яна Качаноўскага з Гайнаўкі змяшчаем песню*

## DZIEŃ, NAJWYŻEJ DWA

**muzyka: Seweryn Krajewski**
**słowa: Krzysztof Drzewnicki**
**śpiewają: Czerwone Gitary**

Stworzyć chcesz mały świat
dla swego uśmiechu,
chciałbyś iść pod wiatr
nie dochodząc grzechu;

pytasz mnie, ile dni
jeszcze jest przed nami
i swój wzrok wpinasz wciąż
w bezgwiezdny aksamit.

Jeszcze dzień, najwyżej dwa —
wszystko się odmieni:
Nie odnajdziesz w swoich snach
zimy i jesieni;
Jeszcze dzień, najwyżej dwa —
wszystko się odmieni:
Ty zrozumiesz ile jest
nieba — tu na ziemi.

Jesteś wciąż blisko snu,
na granicy cienia;
Stawiasz swój pasjans dat,
w których są marzenia.

Lato w nich złote jest,
a wiosna zielona —
złoto twe, zieleń twą
weźmę w swe ramiona.

Jeszcze dzień, najwyżej dwa —
wszystko się odmieni:
Nie odnajdziesz w swoich snach
zimy i jesieni;
Jeszcze dzień, najwyżej dwa —
wszystko się odmieni:
Ty zrozumiesz ile jest
nieba — tu na ziemi.



*Выпадак у заапарку.*

# КУРʼЁЗЫ

### ВАЙНА З... ВАРОНАМІ

Ужо шмат гадоў жыхары малайзійскага горада Кланг вядуць самую сапраўдную вайну з варонамі. Старажылы гавораць, што першыя чароды акупіравалі горад яшчэ ў пачатку гэтага стагоддзя. Цяпер жа варання развялося столькі, што чорнымі здаюцца абсыпаныя птушкамі дрэвы. Крык іх чуваць далёка за гарадской мяжой.

Усе гэтыя гады не спыняліся спробы вызваліцца ад „захопніка". Тры гады назад, напрыклад, было вырашана перастраляць птушак. За тры дні бесперапыннай пальбы было іх знішчана звыш 10 тысяч. Але праз месяц пасля пабоішча іх стала столькі ж, калі не больш.

Потым тры тыдні запар, удзень і ўначы, з магутных дынамікаў, устаноўленых на вуліцах, чуўся запісаны на магнетафонную плёнку скрогат і звон цыркулярнай пілы. Жыхары не маглі ні спаць, ні нават есці. А вароны хоць бы што! Птушкі перасяліліся на дрэвы далей ад шуму.

Урэшце муніцыпалітэт горада, страціўшы, як відаць, усякую веру ва ўласныя сілы, змясціў аб'яву ў газеце, што запрашаецца „бамох" — вядзьмар. На думку газеты „Стрэйтс таймс", ведзьмару дапамогуць яго заклінанні толькі ў тым выпадку, калі „айцы горада" распарадзяцца ачысціць вуліцы ад звалак смецця, якімі Кланг даўно і сумна вядомы на ўсю Малайзію.

### МЁРТВЫ ТРУП

„Ніякіх скаргаў з боку жывёліны не было, труп выявілі мёртвым".

*(З акта ўскрыцця)*



**Нарэшце, шчупака па-сапраўднаму пакаралі — кінулі ў рэчку з адыходамі хімічнага завода.**